# ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ №99

СТУДЗЕНЬ 2007

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ

## ДАЛІ ПА РАГАХ. І ШЧЭ МЕКНУЦЬ.

...Нішто не ўдавала на паганае. Як і заўсёды зьмяіны клубок здраднікаў і юдаў, ў сярэдзіне сьнежня, смашна нажэршыся і, ікаючы прыемнай адрыжкай, сабраўся на сваё «чацьвёртае паседжанне пастаяннага (так!) семінару пры Парламенцкім Сходзе Беларусі і Расеі па пытаннях будаўніцтва Саюзнай дзяржавы» Заўваж, чытачу, юды юдзяць пастаянна! без перадышкі, без выходных.

Тым часам у Смаленску- (незаконна забраным Расеяй беларускім горадзе, між іншым), другая гання юд і здрайцаў на 25м (!) паседжанні «ухваліла скарэктаваны план мерапрыемстваў па забясьпячэнню ўвядзення расейскага рубля як адзінага законнага плацежнага сродку на тэрыторыі Беларусі». Тавар- у дадзеным выпадку Беларусь- грунтоўна рыхтавалі на продаж расейскаму імперыялізму.

А напрыканцы сьнежня, калі тавар быў амаль запакаваны, паганыя маскалі раптам запатрабавалі плаціць за газ амаль трыста сусьветных грошай за 1000 кубаметраў. Дагэтуль было 47 сусьветных амерыканскіх грошай- і на табе! Не памаглі заклінанні пра славянскую кроў, пра гніенне ў акопах і падобная лухта. Маскалі хацелі нешта запаветнае і істотнае - беларускую частку трубы газапроваду і грошы, а не сьлінявыя разва-жанні наконт нейкага некалі пакутніцтва.

Лука закруціўся, як уюн на патэльні. Але маскалі ведалі дзе браць за кокі. Пагыркаўшы, папраклі-наўшы, беларускі дыктатар мусіў саступіць маскалям амаль дарэм нашую трубу за іхні ўтрая даражэйшы супраць леташняга газ. Дыктатар яшчэ спрабаваў быў гыркаць, ратаваць свой прэстыж, забіраючы газ, прызначаны еўрапейцам, увёўшы высокія цэны за расейскі транзіт, але маскалі наогул перакрылі засаўкі і загадалі скасаваць тыя цэны, аддаць крадзены газ, пасталіўшыся наогул не весьці ніякіх перамоваў і адключыць усё і грозны, але баязьлівы, дыктатар падцяў хвасьцец і паслухмяна вуканаў загад паноў. От так маскалі далі па рагах «бацьку» ўсіх кухваек.

(Памятаеце анекдот пра Брэжнева? Гэта Вы ў Маскве фігура, а ў нас у Адэсегаўно.) Так і з нашым. Гэта ён тут дыктатар і самадур, а для маскалёў ён нішто, парахня.

Не, нядобра вышла... Так рыхтавалі тавар на продаж, падмылі, адшаравалі, пад новыя ісьцінна славянскія грошы кашалькі хацелі шыць. А тут усё ў задніцу пайшло...

## Грызе нас

Што так можа скончыцца гульня з Расеяй даўно ведалі ўсе разважныя людзі. Беларускі ж дыктатар, як і багата якія дыктатары- між іх і каханчык нашага-Адольф Іллаізавіч Гітлер- верыў у сваю харызму. Але гэта дужа сьпецыялізаваная харызма, харызма для кухваек. На маскалёў, Захад і нашу рэдакцыю яна не дзейнічае.

Што ж робя абхэзаны маскалямі дыктатар? Правільна! Падвышае -заднім чыслом! - цану на газ для нас.

Дазвольце! Мы і так плацілі зашкаленую цану- прыблізна 470 сусьветных грошай за 1000 кубаметраў, болей за заходнеўрапейцаў! На нас страт дыктатар не панёс.І не нясе. Дык на якой падставе падвышка цаны балону газу?

Далей, цана на бензін таксама падскочыла ажно да даляру за літру. Але палова гэтага даляру- акцыз, то бок проста падатак, які яшчэ фашыст Ленін лічыў самым несправядлівым падаткам.

Беларусы прывыклі жыць пад пастаяннай уладай дыктатараў з пастаяннай адсутнасьцю шчасьця. Таму і гэтым разам дыктатарава абсалютна неабгрунтаванае падвышэнне было ўспрынята як неабходнае ліха. Паліва і газ зараз як прадмет раскошы, для багатых. Гасподзь! Калі будзеш забіраць беларусаў у пекла, залічы ім зямныя пакуты і дурасьць.

## СТАЛІНСКАЕ ГАЛАСАВАННЕ Ў ДУБРОВІ.

Выбары ў Дуброве не выклікалі аніякай цікавасьці з боку насельнікаў. Яны былі рысьцік савецкія выбары найпазьнейшага савецкага часу, але шчэ гідчэйшыя.

Кандыдатаў было роўна, колькі трэба, па аднаму на месца. Кандыдаты былі тыя, хто ім, старшым начальнікам народу, былі трэба, як казаў прызначэнец сп. Анатоль Крывалап.

Дазнаўшыся, хто ёсьць кандыдат у дэпутаты, багата хто дзівіўся падбору.

Ніхто з кандыдатаў нават не спрабаваў неяк весьці агітацыю, тым болей афішаваць свае дэпутацкія намеры. А што гэтым людзям было сказаць народу? Нішчымніца ідэй затаўкі не мае і не забельваецца.

Дэкор пасправабавалі падтрымаць сустрэчай кандыдатаў- усім пачкам! у Храме Шайтана, то бок Доме Культуры акурат у той дзень, калі таму, каму вельмі карцела і прыперла, можна было ўжо галасаваць. Крэпка запомніўся дуброўскаму люду і запаў у ягоную душу дзіцячы абяцанак сп. кандыдата, юнага Віктара Доўгага, «змагацца з алкаголем».

Сьмех дый годзе! Што можа гэты хлопча супраць ветэранаў манаполькі, зуброў чарніла і беспароднага пойла!?

На іх жа баку дзяржава!!!

Гідоцце было і ў заўчасна-дачасным галасаванні. Пазіраючы, хто кеўляе на выбары за пяць дзён да выбараў можна было зразумець, што гэтым галасавальшчыкам усёроўна за каго і як галасаваць. Ім важны рытуал. Той жа, хто гідаваў такія «выбары» меў дзьве альтэрнатывы: пайсьці і зачырыць кандыдатаў ці не пайсьці наогул. Багата хто абраў другі варыянт.

Калі ж неадменная сябра камісіі сп. Доўгая Люба папракнула работніц фермы, што яны не пайшлі галасаваць, ёй энергічна расказалі, чаму тыя выбары ім былі непатрэбныя.

Другое гідоцце было валачэнне з скрынямі па хатах да тых, хто не пайшоў на ўчас так. Звычайна ўсіх іх запісваюць, быццам яны прасілі, каб да іх прыехалі.

(У такім разе на якую халеру ладзіць галасаванне на ўчастку? Бралі б сьвіную ражку, пук галасавальных паперак і абыходзілі б зь імі жывых душ).

Пад час галасаванне некаторыя сябры камісіі настойліва прасілі галасаваць за «Таню». Гэта надзвычай сур"ёзнае парушэнне закону, бо паводле яго агітацыя ў дзень выбараў не дазваляецца, а сябрам камісіі тым болей недапушчальна такое.

Гэтым бессаромным парушэннем закону ўпотай абураліся нават некаторыя сябры камісіі.

Зыходам галасавання амаль ніхто не цікавіўся. Праўда, кажуць, найболей галасоў «супраць»-болей за 300- такога шчэ не было!- атрымала кандыдатура сп. Стукач Тацяны, дырэктаркі школы, якая, па наменклатурнаму палажэнню, мусіць сядзець і ў раённым і ў Кабульськім савеце.

Відаць, да гэтай кандыдатуры народ паставіўся не надта абыякава.

**Нізкая якасьць.**

Гэтыя выбары- чысты падман. Паводзіны выбарчай камісіі даюць падставы лічыць іх несапраўднымі. Калі ўжо сам дыктатар прызнаўся, што і прэзідэнцкія выбары былі сфальшаваныя, то пра які «выбар» можна казаць? Хіба што пра прызначэнні. Тады гэтая ўлада не ад народу, а ад ліхадзеяў-гангстэраў.

Другое: выбары, дзе на адзін дэпутацкі мандат усяго адзін кандыдат павінны быць забаронены. Дзе ж выбар і які пры адным кандыдаце? Тым болей недапушчальна фармаваць камісіі з паслужлівых кабет. Такія «выбары» фармуюць мясцовую ўладу вельмі нізкай якасьці. Гэта і пагана і небясьпечна.А хіба нашаму народу не патрэбна высокаякасная ўлада? Улада да таго выраздзілася, што баіцца нават вылучаць некалькіх сваіх на адно мейсца.

Ды, відаць, так задумана, каб ніжэйшая ўлада была паганай якасьці і слабай, каб ёю можна было пагарджаць і не зважаць на яе. А калі трэба - круціць ёю, як сабака хвастом.

**Выбарчае заканадаўства ў нашай краіне трэба мяняць, яно дрэнь.**

Пры цяперашнім заканадаўстве мы маем адно самадураў, а не начальнікаў.

---

## БРУДНЫЯ ДЗЕЦІ.

Медычная праверка школьнікаў паказала, што дуброўскія дзеці брудныя. Данежне, дзіва знайшылі! Мы штораз пішам пра звандалізаваную лазьню. Дык дзе ж пашараваецца дзятве?

Дарэчы, а каб праверылі дарослых, які водар тамака знайшлі б? Кажын год ўлада скача і мандзіць пра «шасьцідзесяцігоддзе вялікай перамогі». Вы перамажыце прасты бруд цела, ваякі ср..я!

## ПЕРАМЕНЫ?

Ад 17 числа ў Дуброўскім маёнтку «Гомельэнерга» новы аконам. Пра старога, сп. Уладзіміра Семянчука , казалі, што прадстаўнікі гаспадара з Гомлю ім былі незадаволеныя. Мала хто быў задаволены ім і між простых работнікаў. Усе жаліліся на непрывабныя рысы ягонага характару і манеру абыходжання з падданымі.

І вось ён ужо болей не старшынюе на нарадах.

Кажуць, што зьмене шэфа і дабрадзея паспрыялі зьверабоі з Мікалаеўкі, якія завалілі гаспадароў ў Гомлі скаргамі.

Дуброўскія валы хоць і бурчалі, але ярмо цягнулі спраўна.

Тыя, хто працуе ў маёнтку, баяць, што пакідаў пасаду былы аконам не зь нішчымнымі рукамі.Казалі, што чырвоны калгасны фургон цэлую ноч ажно на перад падымаўся, калі ён ехаў з мучнога складу да селішча сходняга аконама. Таксама казалі пра багата бочак-дзежак - з палівам, якія згружалі ў ягоны двор.

Казалі таксама, што і іншыя склады падзяліліся сваім зьмесьцівам. Зрэшты, гэта толькі вартыя даверу візуальныя чуткі. Але з такім адкупным дзяклам можна спакойна пайсьці. Так што Казулінскае пытанне, паўторанае нейкім начальнікам з Гомлю «Дзе грошы дзелі?» трохі не рытарычнае.

Пра новага аконам народ шчэ мала што ведае. Але па выпрабаванай народнай прыкмеце, што новы венік мяце па-новаму, можна меркаваць пра касьметычныя зьмены.

Наўрад ці што істотна памяняецца.

Датацыйную пазарынкавую беларускую сельскую гаспадарку чакаюць немалыя выпрабаванні. Трэба мяняць галоўнага аконама ў Беларусі, от тады на нешта можна паспадзявацца.

## ПРЫЕМНАЯ НЕСПАДЗЯВАНКА.

Амаль сюрпрызам трэба лічыць аднаўленне начнога вулічнага асьвятлення ў Дуброві. Болей за тыдзень вёска была ў цемры, а тут на табе, ізноў заззяла і зазіхацела на радасьць люду, бо ад цемры народ ужо пасьпеў адвыкнуць Нават у Кабульшчыні німа такога сьвятла. Што прыкра, галоўная вясковая вуліца- яна ж і шаша Парычы-Азарычы з інтэнсіўным рухам, асьветлена блага і ехаць ці ісьці па ёй поначы страшнавата.

І ўсё ж цікава, ці вутрымае буджэт такую раскошу надоўга? Ці не здарыцца так як тыя гады ў Шацілках, дзе вулічнае асьвятленне амаль павыключалі і горад меў прывідны клаўстрафобны выгляд?

## КАНЕЦ ХАЛЯВЫ.

Чыстая халява доўжылася амаль да канца месяца.Цяпло, хоць не надта вялікае- тэмпература была ад трох да шасьці градусаў, раптоўна скончылася 24 студзеня, калі пачаў падаць сьнег і нападаў даволі шчодра.

Але такая затрымка халоднай пары была прыемнай.Меней трэба было паліва, скаціне лягчэй. Арцель паарала ўсё, што хацела паараць, нават сям-там балоты. Людзі бачылі нават жаваранкаў, якіх падманіла надвор"е. Цікава, куды ж падзеліся гэтыя пта-шачкі зараз, у глыбокі сьнег?

## НЕПЕРСПЕКТЫЎНЫЯ

Кажуць у народзе «дай, Божа, шчасьця ў лецях і ў дзецях».

Мы ўсе дзеці сваіх бацькоў і бацькі сваіх дзяцей.Дзеці маюць права спадзявацца на ласку і помач бацькоў, а бацькі - на падтрымку і клопат дзяцей у старасьці.

Чашчэй за ўсё так яно і бывае. Але не заўсёды.

Абязьлюдзенне і руйнаванне вёскі пераложнымі бальшавікамі парушыла векавую традыцыю шанавання старасьці і ўсьведамлення, што пажылыя людзі- гэта надзвычай важная і каштоўная частка грамадства. Моладзь сыйшла і сыходзіць зь сяла, пакідаючы бацькоў адных. Мужчыны паміраюць раней, застаюцца самотныя ўдовы, якія ўсё болей маюць патрэбу ў дапамозе. Ды ніякая сацыяльная служба не заменіць натуральных зносін з сынам, дачкою, унукамі.

От і ў Дуброві ёсьць адзінокія жанкі. Дочкі ўладкаваліся ў гарадох, маюць жытло, але для старой мамы кутка ў іх німа. Дочкі мо і з дарагой душы хацелі б маму ўзяць, дык мужы супраць. І застаюцца мамы адны і самотныя, у нішчымных хатах, з горкімі ўспамінамі і тугою, з горыччу няспраўджаных спадзяванняў, з немачамі і хваробамі. Самотна ходзяць па вуліцы, цягнуцца, абапіраючыся на кіёк.

Бывае і горай, калі і сын дома, але п"яніца-тыран. Тады жыццё-суцэльны зьдзек.

Тое, як тата і мама ставяцца да сваіх таты і мамы непазьбежна перадаецца дзецям. Дык не трэба саромецца бацькоў, каб і вас і нас не саромеліся. Каб і нас не чакаў горкі смак самоты.

Чэрствае ў нас грамадства ў стаўленні да старасьці. Крыўдна.

## ДЫКТАТАР ХІТРУЕ.

Тыя гады да шчасьця ў паход, як ведама, нас вяла партыя. І ейны «ленінскі цэнтральны камітэт» (па-нямецку гэта было б «гітлераўскі цэнтральны камітэт») Чым гэтае тупанне скончылася- відаць усім.Цяперака ў нас іншы праважаты- цэзарапапіст і былы наглядчык зэкаў у шклоўскай калоніі. Пасьля таго, як перад новым годам і трохі пасьля, яго добра паклычылі маскалі курс на аграмястэчкі крышку пабляк. Цэзарапапіст загадзя папярэдзіў любы яму электарат і народ, што сёлетні год будзе вельмі цяжкім.От табе на! А мы так спадзяваліся, што жыццё палегчае, грошай пабольшае, дабрабыт палепшае.

Некалі, на пачатку сваёй беспамернай кар”еры, ён абяцаў, што пойдзе праз пару год у адстаўку, калі толькі не здолее і не здужае знайсьці народнае шчасьце..

З таго часу шчасьце перапоўніла турмы і зоны, сірочыя дамы і могілкі. Так што ісьці прэч рана.

Наш няхітры народ спакойна ўспрыняў пагрозу свайму дабрабыту з-за ідыёцкай і бязглуздай палітыкі беларускага верхаводы і хакеіста.

Пад”ялдыкуванне маскалям і авантурныя беспадстаўныя планы патрапіць на цараванне ў Расею прывялі да цяперашняй бесперспектыўнасьці і няяснасьці будучыні нашага жыцця.Прадбачычы народнае незадавальненне агульнанаменклатурны замітусіўся.

Настолькі замітусіўся, што ажно паклікаў народ лезьціў зямлян-кі.(Казаў жа раней, што за цывілізаванымі краінамі не павядзе.)

Лезь туды сам і не вылазь!

Можна меркаваць, што з гэтай хаатычнай мітусьні нічога добрага не выйдзе.

**Кашалёк не падманіш.**

Канешне, не падманіш.

Па індэксу эканамічнай свабоды Беларусь аціраецца ажно на 145 мейсцы ў сьвеце.(Ці ж гамоняць пра гэта прапагандысты на нейкім адзіным палітдні?)

Адсутнасьць свабоды- гэта адсутнасьць вольнага рынку.Гэта адсутнасьць права на выбар і занятак якой-небудзь дзейнасьцю.

**Свабода для чужынцаў.**

Беларускі дыктатар так напусьціў у споднікі, што ў прыступе халуй-ства стварыў для маскалёў ці не лепшыя ўмовы эканамічнай дзейнасьці чым для нас, белару-саў.Карачэй, зьняў мноства абмежаванняў, якія раней неяк стрымлівалі імперскія апетыты ўсходнікаў.Затое сваім гандлярам усё болей абмяжоўвае магчымасьці гандлю.Вось ужо і металічнае начынне нельга ім прадаваць.

Чый ён агент, дыктатар - хакеіст?

## РУКА З-ЗА БУГА.

Бачачы беларускія цяжкасьці Еўропа хоча падаць Беларусі руку. Прыязджаў да нас на запросіны Беларусі адзін высокапасадны чыноўнік, сп. Рэнэ ван дэр Ліндэн, Старшыня Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы. Каб Беларусь ахватней пайшла на супрацу гэны сп. Рэнэ заплюснуў вочы на ўсе парушэнні правоў чалавека і на палітзьняволеных у нашай Радзіме. Але жмурыўся і затыкаў вушы сп. ван дэр Ліндэн Рэнэ марнавата: тутэйшая дыктатура яшчэ сьляпейшая і глушэйшая і запраграмаваная не еўрапейскай праграмай. (Інч ты, ў зямлянкі захацеў!)

І паехаў сп. Рэнэ прыблізна з тым, з чым прыехаў: хіба што пабачыў блізенька менскіх далба...ў.

Ім кажуць стрыжана, а яны: брычана!

---

У лякарню адправіла міліцыя вольнага мужчыну, Алега Г. лячыцца ад сацыяльнай хваробы -сухотаў. Рахманы мужчына жыў адзін, заробку сталага не меў, харчаваўся кепска, ну і іншае. І вось яна бяда. Трэба зазначыць, што ў тыя часы нават уладкаваныя кабеты з Дубровы траплялі на лячэнне ад сухотаў. Так што з кожным можа быць.

Жадаем спадару Алегу спраўнай і ўдалай папраўкі.

Чакаем у Дуброве.

Пайшла ад нас
маладая жанчына
**Герашчанка**
Жана Мікалаеўна
Хай ёй зямля будзе пухам.
Спачуваем мацяры, сёстрам брату і мужу.

Друкарня І.Масьціцкага 100 асобн.